Ніл Гілевіч

# Бальшак

*Паэзія*

Мінск
Беларусь
1965

«Бальшак» — мая чацвёртая кніга лірыкі. У ёй — няпоўны адбітак таго, чым я жыў, што мяне турбавала і непакоіла ў апошнія гады. Буду вельмі рад, калі маё хваляванне хоць у нейкай меры перадасца чытачам.

*Аўтар*

Люблю цябе, жыццё, любоўю кроўнай.
Я не нахлебнік твой. Я на зямлю
Не для таго прыйшоў, каб жменяй поўнай
Уцехі браць. Я — аддаваць люблю.

Тым, што зрабіў, любоў я вымяраю.
І калі мой апошні час праб'е,
Павінен ведаць я, што паміраю,
Аддаўшы ўсё да кропелькі — табе.

## РЫХТУЙЦЕ СЭРЦЫ ДА ПАЛЁТУ!

Мы зналі:
Скора!
Скора!
Скора!
І ён пачаўся —
Новы век:
У высь касмічнага прастору
Падняўся першы чалавек.

І крыкнуць хочацца:
Радзіма!
Ты ў даль шчаслівую ляціш!
Цябе ўчарашнімі вачыма
Сягоння ўжо не разглядзіш.

Хвала адважнаму пілоту,
Паклон і — слава на вякі!
Рыхтуйце сэрцы да палёту —
Сябры,
Суседзі,
Землякі!

## Я НЕ ЗНАЮ, ДЗЕ ВАШЫ МАГІЛЫ

Я не знаю,
дзе вашы магілы,
героі Кастрычніка,
Дзе сыры і халодны
апоўначы
сыпаўся жвір —
На арліныя вочы,
што праўдай,
бы сонцам,
свяціліся,
На бясстрашныя сэрцы,
што ў вернасці
горача біліся,
На шурпатыя рукі,
што лашчыць дзяцей
не забыліся,
Агрубелыя ў бітвах
за волю,
за шчасце
і мір.
Я не знаю,
дзе вашы магілы,
байцы Рэвалюцыі.
Але знаю,
як ваша жыццё
памагае жывым.
Зноў нам свецяць імёны,
што здрадна
былі перакрэслены,
Дарагія імёны,
што праўдай з нябыту
ўваскрэсены,—

Іх сягоння бяруць сабе плошчы,
і школы,
і крэйсеры.
І ніколі ўжо
з памяці сэрцаў
не сцерціся ім!
Я не знаю,
дзе вашы магілы, героі,
не знаю,
Дзе і самай апошняй хвілінай
вы верылі ў сцяг з кумача.
І таму прыгажэйшыя кветкі
з лугоў майго роднага краю
Занясу на Чырвоную плошчу,
пакладу да труны Ільіча.

## ДАРЫЦЕ СОНЦА

Гукнуць бы, каб рэха —
па краю ўсяму:
Дарыце усмешкі
адзін аднаму!
Зірніце, як сонцу,
што ўсмешкі нясе,
Шчасліва ўсміхаюцца
кветкі ў расе!
Дарыце усмешкі,
ад сэрца дарыце!
І самі бярыце,
у сэрца бярыце!..
Хаця чалавек
нараджаецца з плачам,
Але нараджаецца ён,
каб смяяцца.
Калі я кагосьці
з усмешкай убачу —
Я веру: такога
не трэба баяцца.
Другі нелюдзімым
і чэрствым здаецца,
І раптам глядзіш —
чалавек усміхнецца,
І ўжо ён прыгожы,
і хораша з ім,
Як быццам ты
з другам спаткаўся сваім.
Не ведаю велічы большай,
чым маці,
Што цешыцца ўсмешкай
свайго немаўляці!

Што можа
зрабіць шчаслівейшым паэта,
Чым ты —
сарамлівая ўсмешка Джульеты?..
Шкадую людзей,
што не ўмеюць смяяцца,
Што ў сэрцы
не маюць такога багацця.
Баюся людзей,
што смяяцца не любяць
І ўсмешку чужую
спаткаўшы загубяць...
Гукнуць бы, каб рэха —
па краю ўсяму:
Гэй, сонца дарыце
адзін аднаму!
Дарыце уранку,
і ўвечар дарыце!
І самі бярыце.
У сэрца бярыце!

## СУСТРЭЧЫ Ў СНАХ

Ад той роспачна-радаснай,
незабыўнай давеку вясны,
Калі ідал рассыпаўся ў прах,
вось каторы ўжо год
У мае неспакойныя,
у мае несалодкія сны
Прыходзіць начамі пясняр пралетарскі Чарот.
То ён бачыцца мне —
малады,
кучаравы,
вясёлы,
У кашулі
у вышытай
лёгка ідзе па зямлі,
І вітаюць яго,
пазнаюць беларускія сёлы,
Дзе ён госцем
жаданым і любым
у кожнай сям'і.
То ён бачыцца мне у халоднай
заплесненелай камеры:
Хоча выблытаць промень,
што ў кратах іржавых завяз.
Толькі рук не кране ён:
прабіты наскрозь
не цвікамі,
А скручанымі у трубачкі
абрыўкамі
чорных заяў.
То на плошчы святочнай
пад гукі ўрачыстага гімна
Верш забыты чытае,

і слухаюць сцішана людзі;
«Не расіце слязамі вы брацкіх магіл...
Так было, але гэтак не будзе!»
То, здаецца,
ў пакоі маім,
засядзеўшыся позна,
Нахіляецца блізка,
з балючай тугой у вачах,
І пытае даверліва:
— Слухай,
а табе не бывае боязна?
На цябе не находзіць
той самы
пракляты страх?..
«Мне не страшна!» — крычу.
Пудкі сон атрахаецца мігам.
Льецца сонца ў акно.
Мне не страшна.
Звіняць капяжы.
Мне не страшна.
На вуліцы
— ластавак радасны цвіргат.
Мне не страшна.
За ўзгоркі
сплываюць хмар цёмных глыжы.
І не будзе мне страшна.
Бо вечна шумець навальніцам.
І не будзе мне страшна.
Бо вечна траве зелянець.
Вечна сонцу купацца
ў лясных беларускіх крыніцах
І няўрымслівай песні
ў вечным паходзе
звінець!

## РАВЕСНІКУ ЗА АКІЯНАМ

Мне б сёння сесці побач,
Спытацца па-сяброўску:
— Ты помніш сорак першы
Шалёны шквал бяды?..
Нам стукнула па трыццаць.
Але калі папраўдзе:
Я за цябе старэйшы
На цэлых
                    тры гады.

На тры гады, з якіх ты
Не ўзяў сабе ні трохі.
Не роўны лёс калісьці
Спаткалі хлапчукі...
Не ты, а я дагэтуль
Нашу на правай скроні
Эсэсаўскага бота
Каванага знакі.

Не за табой — за мною
Фашысцкі «ас» ганяўся:
Яму было, напэўна,
Пацехаю з пацех,
Як я праз лог да лесу
Без памяці імчаўся,
Бег, падаў, падымаўся
і зноў што сілы бег...

Не ты, а я ў балоце
Ляжаў асенняй золлю,
У ледзяной рудаўцы,

Скалелы да касцей.
А міны рвуцца блізка —
Вось-вось глядзі бабахне,—
І застанешся ў багне,
У той дзічы, навек…
Я мог сто раз памерці,

Я мог сто раз загінуць,
Зрабіцца жменькай попелу
У печах Трасцянца.
Але я выжыў. Выжыў!
Я з пекла цэлым выйшаў,
Каб за людское шчасце
Змагацца да канца!

Я помню ўсе магілы
На ўсіх пагостах краю —
Маленькія магілы
Равеснікаў маіх.
І мне няўсцерп балюча
Сцінае сэрца гневам,
Што так няўмольна жорстка
Смерць пакасіла іх.

Балюча, бо я знаю,
Як жыць на свеце хораша,
Як хораша на досвітку
Выходзіць з дому ўлегцы,
Як добра, калі зморышся,
На свежым сене легчы,
Карэц вады ці квасу
З дарогі асушыць!
Я знаю, як прыгожа
Дубы з вятрамі дужацца,

Як таямніча свецяцца
Начамі зоркі ў небе,
Як галава закружыцца,
Ад шчасця ап'янее,
Калі да хмельных вуснаў
Гарачых прыпадзеш.

Я знаю шчасце — крочыць
З маленькім сынам просекай
І гаварыць пра птушак,
Пра дрэвы і пра кветкі.
На рукі сын папросіцца —
Вазьму, і ненарокам
Згадаю пра далёкі
Пра сорак першы год.

Не, я не мог памерці!
Не, я не мог загінуць —
Зрабіцца жменькай попелу
У печах Трасцянца!
Я для таго і выжыў
І з пекла цэлым выйшаў,
Каб за людское шчасце
Змагацца да канца!

Я — радавы запасу
І — будучыні творца,
Што нібы ў казцы-песні
Над светам паўстае.
Без каменя за пазухай
Я падаю, равеснік,
Табе руку на дружбу —
Не адхіляй яе!

**БАЛЬШАК**

Праз долы-нізоўі, дзе ўвечар туманы ўстаюць,
Праз водар мядункавы спелых лугоў у пракосах,
Праз рэкі і рэчкі, што петлі блакітныя ўюць,
Праз ранішні гоман стозыкі пасёлкаў і вёсак,
Праз пушчу, дзе сосны струменяць жывіцу-пяршак,
Праз ліўні густыя,
                    што раптам заслоняць паўсвета,—
Спяшаецца ўдалеч стары беларускі бальшак,
Спяшаюцца людзі, спяшаецца век-непаседа.

Мільгаюць бярозы — астаткі даўнейшых прысад,
Гіганцкімі скрыпкамі воддаль —
                                        слупы з правадамі...
Імчуся і думаю: колькі стагоддзяў назад
Тут прашчуры босыя сцежку сабе пракладалі?
І колькі стагоддзяў тут гора хадзіла пасля?
Мужычую помсту хавала пад цёмныя шаты...
І колькі разоў тут пляліся чужынцы здаля,
Губляючы гонар і славу, штандары і шапкі?..

Нібы ўпершыню, углядаюся зноў у прастор —
У мілыя, родныя вобразы любага краю.
Без гэтых бароў задуменных, без гэтых азёр,
Без гэтых палеткаў я шчасця на свеце не знаю.
Вядзі ж мяне ўдалеч —
                              за ўсе гарызонты, бальшак!
Праз будні імчы і праз святы,
                              праз дні і праз ночы —
Каб вецер Радзімы гудзеў несціхана ў вушах,
Каб дых захліпаўся, каб слёзы ўзбягалі на вочы!

## ЭСТАФЕТА ПРЫНЯТА

Хлопцы з сёл беларускіх
дарацъ песні людзям на шчасце.
Юнакі, што радзіліся
ў той знепакоены год,
Калі хмары на Захадзе
пачыналі трывожна згушчацца
І была папулярнаю песенька:
«Если завтра в поход...»
Ім спраўляліся хрэсьбіны небывалыя —
ўсім калгасам,
Ім давалі імёны нязвыклыя —
ў гонар слаўных падзей.
У застоллі дзядзькі ўспаміналі
нішчымніцу з квасам
І навыперадкі выхваляліся,
у каго багацей працадзень.
Маладыя паэты выходзяць
на сваё цаліннае ворыва,
Юнакі, што глядзелі
з кляновых калысак на свет,
Калі недзе далёка,
з кляймом адшчапенца і ворага,
Бочкі рабіў іх настаўнік —
сапраўдны савецкі паэт.
Рукі прывыклі к фуганку,
адвыкшы трымаць аловак.
Сэрца, што сонца расплёсквала,
сціскаў абручамі боль.
Каб не забыць дарэшты
водару роднага слова —
Бясконцымі вечарамі
ён сам размаўляў з сабой.

Маладыя паэты
пройдуць сцежкі свае
шчаслівейшымі,
Чым настаўнікі іх,—
па любімай
пяшчотнай зямлі.
Нездарма ім упершыню
гаварыць захацелася вершамі,
Калі форум партыйны
Дваццаты
бурліў у Крамлі.
Будуць гімны Камуне
грымець,
у прасторах лунаючы.
Праўды ленінскай полымя
не задзьмулі вятрамі
гады.
Вунь як ярка яно
разгараецца ў сэрцах юначых!
Эстафета прынята.
Надзейна і —
назаўжды.

* * *

Ідзе жанчына — асцярожна,
Ва ўсёй красе.
Неасцярожна — ёй няможна:
Жыццё нясе!

Ідзе па вуліцы, па скверы,
Паўз новы дом,
Дзе, помню, друз ды попел шэры
Ляжаў кругом.

Руіны страшныя, як здані,
Гасілі сінь.
Было, здаецца, так нядаўна —
Зусім-зусім.

Паверыць проста немагчыма,
Што з той вясны...
Што нарадзілася жанчына
Пасля вайны.

**БОМБУ КІНУЛІ У ДОМ ПІСЬМЕННІКА...**

Бомбы рвуцца ў «свабодным свеце»,
Каб зрабіць яго больш «свабодным».
Пралічыліся ўсё ж фашысты:
Незнаёмы наш друг жыве.
Зноў ягоныя словы праўды
Выбухаюць мацней, чым бомбы.
Зноў ягоны бясстрашны голас
Да братэрства людзей заве.

Бомбу кінулі ў дом пісьменніка,
Што не пеў цемрашалам псалмы...
Многа чорных было забойстваў —
Ад Пушкіна да Галана!
Забівалі не рыфмаплётаў —
Нават модных-размодных самых.
Забівалі таго, чый голас
Над агнём барыкад лунаў.

Там, дзе рвуцца аковы рабства,
Дзе свабоды шырэюць крокі,—
Колькі сёння іх, мужных духам,
Што высока над галавой
Уздымаюць, як сцяг чырвоны,
Расстралянае сэрца Лоркі,
Што гатовы радок апошні
Дапісаць на зямлі крывёй!

Я з павагай гартаю томікі —
І святыні і несвятыні,
Шчыра ўдзячны усім, хто шчодрасць
У мяне пераліў сваю.
Але тройчы зямным паклонам

Я схіляюся перад тымі,
Што за шчасце сваёй радзімы,
Як салдаты ляглі ў баю.

* * *

Я хацеў бы слова даць любові,—
Хай яна гаворыць — у любові
Болей права і заслуг высокіх
Перад светлым імем чалавецтва.

Я хацеў бы слова даць любові,—
Хай бы зноў і зноў свае абдымкі
Прасцірала радасна-нястрымна,
Як дзіця, што сустракае маці...

Я хацеў бы слова даць любові,
Бо мілей за ўсё на цэлым свеце
Слухаць мне яе праўдзівы голас,
Неспадманны, першароднa-чысты...

А павінен я, а мушу слова
Даць другой неўтаймаванай сіле:
— Саступі, любоў, чаргу і месца,
Хай нянавісць выкажацца сёння.

Не шкадуй аддаць на час трыбуну —
Ты раней прыйшла ў людскія сэрцы
І ў цябе яшчэ ў запасе вечнасць.
А нянавісць вечна жыць не будзе...

Ты маёй нянавісці не бойся.
Бойся той, што вырасла з няпраўды,
Што народжана ва ўтробе звера —
Крыважэрная дачка насілля...

А мая нянавісць толькі хоча,
Каб ярчэй палала сонца праўды,
Каб адзіная на цэлым свеце
Ты, любоў, заўсёды панавала.

## СУД

У перапоўненай вялізнай зале
Ідзе працэс над бандаю забойцаў,
Што памагалі ў дні вайны фашыстам
Страляць і вешаць і паліць людзей.
У перапоўненай вялізнай зале
Клакоча столькі гневу, што хапіла б,
Каб спапяліць не толькі гэту банду,
Але і тых, што уцяклі ад кары,
І ўсіх, хто прагне зноў людской крыві!..

А суд праўдзівы...
Суд глядзіць у залу,
І ўжо не сотні розных твараў бачыць —
Адзін суровы твар жанчыны-маці,
Акамянелай ад пакут і гора,
Без слёз у выцвілых сляпых вачах.
Ужо семнаццаць год ускрай дарогі
Яна стаіць над брацкаю магілай,
Дзе прах дзяцей, што вынашаны ёю,
Якім яна калісьці падарыла
Прыгожы, казачна-дзівосны свет.

Акрытая каменнай шэрай хусткай,
Яна не можа пакрануць рукамі,
Каб пад прысудам падпісацца першай.
Але крычыць нямым жахлівым крыкам
Яе каменны нераскрыты рот:
«За што? Скажыце мне, за што?
О, людзі!»
І людзі чуюць страшны голас маці.
І чуе суд. І чуе ўся планета.
Ды не прачнецца ў чалавеку звер!

## АНАНІМШЧЫКІ І БЕЗЫМЕННЫЯ ПІСЬМЫ

Ананімшчыкам стала цяжэй.
Ананімшчыкі проста пакутуюць.
Што за час наступіў?
Што за людзі такія пайшлі?
Ананімцы не вераць!
Нават сотнямі чутак падкутую,
Не прымаюць да ўвагі,
Куды ты яе ні пашлі!

А нядаўна ж было...
Крамзанеш на каго без прынукі —
Ды ў канверт!
І гатова!
І спёкся!
Тут быў — і няма!
Сам глядзі ды любуйся адно,
Пацiраючы рукі,
Ды пасаду займай,
Каб не выйшла,
Што з’еў задарма.

Спачуваю вам, бедныя!
Разумею, што гэта нялёгка —
Пашчу воўчую мець
І нікога жыўцом не глынуць!
Праўда, жужалу можна
У той жа канверт
Напялёхкаць
Ды знячэўку на голаў
Суседу ці другу лінуць...

Толькі ёсць,

Толькі ёсць безыменныя пісьмы
Другія.
Гэткіх пісем ніколі ў жыцці
Не пісаць слімакам.
І яны, тыя пісьмы,
Бясконца для нас дарагія,
Не начальству пасланы —
Радзіме.
Народу,
Вякам.

З іх скупымі радкамі
Свет цэлы сягоння знаёмяць
Мураваныя сцень:
Старых пагранічных фартоў:
«Нас пяцёра было.
Паміраем, але не здаёмся».
«Мы стаялі насмерць, да канца.
Вораг тут не прайшоў!»

Не ад страху — о не! —
Засталіся яны безыменнымі.
Ад бясстрашша святога.
Ад беззапаветнай любві.
Вы таксама чытайце іх, вы,
У каго яшчэ ў венах
Учарашнія страхі пульсуюць,
Дрыжаць у крыві.

Невядомых герояў радкі
Будуць ззяць над эпохамі
І тады,
Як пасля незлічоных
Гвардзейскіх атак

Згіне подласць
І з ёй
Прападзе ананімка апошняя
Беззваротна,
Бясследна,
Як кінуты ў мора
Пятак.

## ПРА ДЗЯДОЎ І ЗЯМЛЮ

У лясной старане,
Дзе адвеку не мерацъ на грошы
Ні закуску, ні чарку,
Ні шклянку халоднай вады,
Начаваў я калісьці,
У час той — ні лепшы, ні горшы,
Калі ўдарнаю сілай
Лічыліся ў вёсцы
Дзяды.

...Дзеркачом абабіўшы валёнкі
(На працы быў дзесьці),
Ён прысеў каля грубкі.
Ільдзінкі плывуць з барады.
— Цяжкавата зімою?
— Памог бы!..
— А дзе вашы дзеці?
— Дзеці? Там, дзе і ты, брат...
Па шчасце пайшлі ў гарады.

— Ну, чаго так глядзіш? —
Пераняў мой збянтэжаны позірк.
— Я адсюль не сыду ўжо,
Калі не сышоў малады.
Ад зямлі уцякаем.
А хлеб сюды з горада возім...
Чым далей ад зямлі мы збяжым,
Тым бліжэй да бяды.
Самакрутку скруціў,

Прыпаліў з вугалька на далоні.
Зацягнуўся да кашлю.

Высокі,
Сутулы,
Худы.
Доўга слухаў я скаргі,
Губу прыкусіўшы да болю,
І маўчаў, як нямы.
Ды і што мог сказаць я тады?..

У лясной старане,
Дзе адвеку не мерацъ на грошы
Ні закуску, ні чарку,
Ні шклянку халоднай вады, —
У чаканні сыноў і дачок —
Са жніва ці з пакошы —
Забаўляюць унукаў
І свецяцца ўцехай
Дзяды.

## РАЗМОВА З КАЛЕГАМ АБ РЫФМАХ І ХЛЕБЕ НАДЗЁННЫМ

Разышоўся ты, братачка,—
Проста бяда.
Аўтарытэты ўчарашнія
Скора будуць усе ў пляўках.
І песні ўчарашнія бэсціш —
Нават тых не шкада,
Што складзены ў мінскім астрозе,
Што спеты ў Ляўках.
Патрасаючы пафасна
                    ўласнымі вершамі
(Хаця вершы замешаны рэдзенькай,
Выхваляешся рыфмаю —
                    самай навейшаю,
Якой не было ў папярэднікаў.
Браце мой!
Калі справа ўся ў рыфмах —
                              магу пацягацца:
Будзь упэўнен,
               што я цябе выматаю!
Я такую, брат, рыфму выдумаю —
Непрычэсаную і нявымытую,
За якую дадуць тваіх дваццаць.
Толькі... знаеш: сама па сабе
Гэта рыфма — каму яна трэба?
Ёю ў сэрцах людскіх
Не заменіш надзённага хлеба.
Тым, хто поле плугамі варочае,
Хто пры домне сочыць за плаўкай,—
Толькі праўда патрэбна —
                              зямная, прарочая,
І ідуць яны

толькі за праўдай.
Праўда ж, браце мой, простая.
Вельмі простая!
Як зямля,
На якой мы сваё адтэпаем,
Як з крынічнай вадою
карэц бяроставы,
Як пшанічныя хвалі
ў бязмежжы стэпавым.
Яна і прыходзіць проста,
як поры года,
Як лівень улетку,
як раніца пасля ночы.
Праўда мудрая,
як сама прырода.
Праўда чыстая,
як дзіцячыя вочы.
Хай жа гэткай прыходзіць
і яна й да цябе!
І не трэба,
Прыбраўшыся моднай адзежынай,
Глядзець на сяброў
па вялікай сяўбе
Толькі
з плёвага
пункту гледжання.

* * *

Не адбірайце музыкі ў паэта,
Заканадаўцы паэтычных мод!
Яна з ім дружыць ад стварэння свету,
Ва ўсякім разе — сотні тысяч год.

Яна не толькі ўмее калыханкай
У вечаровай цішыні гучаць,
Але звінець, як сталь,
Зіхцець маланкай,
І калі трэба — громам грукатаць!

Не ведаю,
Ці многа толку ў спробах
Пазбавіць музыкі душы парыў:
Баюся, каб бяздушны, чэрствы робат
Замест паэта не загаварыў.

І марна хтосьці прарочыць там, гадае,
Ці той, ці іншы з будучыняй верш.
Няхай жыве паэзія, якая
Узрушыць сэрца чулае найперш!

## **СПАДЧЫНА**

*М. І. Забэйду-Суміцкаму*

1

Гэта спадчына
Мне засталася ад прадзедаў —
Гэта матчыных
Песень дзівоснае прадзіва:
I вясёлых,
I сумных,
I слёзных,
I грозных...
Песні гэтыя
Продкі складалі калісьці,
Берaглі,
Не сцураліся,
Не адракаліся:
Ані ў стайнях —
Пад панскімі бізунамі,
Ані ў храмах —
З ненаскімі абразамі.
Не гадамі —
Глухімі, як поўнач,
Стагоддзямі,
Калі ў поле вясною
З сахою выходзілі,
Калі ўвосень мякіну
Бязменамі мералі,—
Продкі ў долю
I ў песню шчасліваю
Верылі...

2

Ты журылася, песня,

Ты плакала, песня,—
Русакосай,
Пахілай вярбою над ставам,
Сіратой
Над убогай магілаю маці,
Адзінокай зязюляй
У белым бярэзніку...
Сумавала
Рабінай у полі асеннім,
Жураўліным ключом
У захмараным небе,
Ветрам зімным
У коміне хаты сялянскай...
Галасіла наўсхліп
У застоллі вясельным,
Абягала слязьмі
На дары, на палотны,
На падушкі,
Што мулкімі будуць
Да скону...
Калыхала калыску
На рваных пастронках,
Калаўротам
Гудзела ў цішы вечаровай,
Напівалася п’яна ў карчомцы
На свята,
Па аселіцах росных
Блукала ўначы.
Шаргацела сярпом,
Шалясцела калоссем,
Шапацела сухім мурагом
Пад граблямі,
І толькі ніколі-ніколі
Не шамацела рублямі!..

Званочкам
Пазвоньвала на начлезе,
Рассыпалася
Смехам дзявочым па лесе,
Адгукалася
Рэхам на ўзгорках і ў долах,
Булькатала крыніцай
У засені ясеняў,
Ручаінай журчала
Па чыстых каменнях,
То ля самага сонца —
Высока-высока —
Трапяталася жаўранкам
У сіняве.

3
То плыла на плытах -
Па Дзвіне,
Па Дняпры,
Па Бярозе,
То ў закуранай кузні
Звінела на чорным кавадле,
То дубоваю воссю
Скрыпела ў чумацкім абозе,
У далёкай дарозе,
У спёку,
У слоту,
У дождж.
То ўстрывожанай чайкай
Лятала над возерам з крыкам,
То стагнала,
То гнеўна,
Як лес непагодай,
Гула,

І страшна рабілася тым,
Хто цябе ненавідзеў,
І радасна біліся сэрцы,
У якіх ты жыла.
З апаленым крыллем,
Як птах асірочана-грозны,
Над вогнішчамі вясёлымі
Кружылася па начах,
Разносячы іскры
У сонныя панскія гнёзды
Пад лязгат сякер,
Бляск навостраных кос
На плячах.

4

Ты склікала,
Збірала маёўкі ў бары,
Ты гучала паролем
У вуснах падпольшчыкаў,
Ты пайшла руйнаваць
Свет агідны стары,
Калі залпы «Аўроры»
Разнесліся пошчакам.
На чале эскадронаў
Скакала ў сядле,
Сцяг вышэй падымала,
Прыўстаўшы на стрэмя.
З камунарамі разам
Расстрэлівалі цябе,—
Неўміручая,
Выйшла жывой з-пад расстрэлу.
І тады...
Як жа ты загучала тады!
Колькі радасці весняй

Забілася ў тонах!
Твой нястрымны разгон,
Твой узлёт малады
Ільічом быў акрылены
Ў сэрцах гартоўных.
Першым трактарам
Ты ў маю вёску прыйшла,
Першай лямпачкай зыркай
Заззяла пад столлю,
Першы раз на абрус
Белым хлебам лягла
І навечна паверыла
Шчасцю-раздоллю.

5
Часта думаю:
Што, каб не матчына песня?
Чым бы дыхаў?
На холадзе чым саграваўся б?
Папрасімцам, напэўна,
Бадзяўся б па свеце,
Жабраком
Між чужых і радні
Пабіраўся б.
З чым пайшоў бы я ў госці
Да добрых суседзяў?
Чым аддзячыць бы змог
За дары іх ад сэрца?
Хто б мяне
Паміж трох міліярдаў
Разгледзеў?
Хто б мяне распазнаў
І, як роўнага, стрэціў?
А цяпер —

Валадар я нязлічаных скарбаў,
І другім не зайздрошчу —
Прызнацца па праўдзе,
І ніхто не пачуе
Ні крыўды, ні скаргаў,
Што не кінуў нічога
Мне ў спадчыну прадзед.
Мне з табою, мой скарб,
На планеце не цесна,
Я з табой —
І вялікі,
І знатны,
І дужы.
Я хачу зберагчы цябе,
Матчына песня,
Каб запоўніць табою
Спусцелыя душы!
Я хачу
Пасяліць цябе ў сэрцах
Нашчадкаў,
Каб ніколі мяне
Папракнуць не змаглі,
Каб было перад смерцю
Мне лёгка ад згадкі,
Што я жыў недарэмна
На роднай зямлі.

Я хаджу, закаханы
У твае краявіды,
І шапчу як прызнанне:
О, мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь:
І трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі,
І любоў, і грахі…

Пасля доўгіх расстанняў
І далёкіх вандровак
Я вярнуся навекі
Ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага долу,
Толькі ў роднай дуброве —
Як не дрэвам, хоць кветкай
Прарасту для жывых.

* * *

Зямля бацькоў, Лагойшчына мая,
Край неўміручай партызанскай славы!
На ўсё жыццё ўвабраў у сэрца я
Тваіх кастроў і боек дым гаркавы.

Мяне б і зараз памяць прывяла
Да той зямлянкі на пясчанай выспе,
Дзе вера светлая са мной жыла,
Дзе не па ўзросту гнеў у сэрцы выспеў.

Я і сягоння адшукаць бы мог
Сцяжынкі тыя у дзічы дрыгвістай,
Дзе карані паўзуць вужамі ў мох,
Дзе смерць знаходзілі сабе фашысты.

Тут кожны куст трывожнаю парой
Хаваў мяне ад нечысці звыроднай.
Тут да зямлі халоднай і сырой
Я прыпадаў, як да матулі роднай.

Тут грозны час сяброў мне не збярог,
Ім светлы дзень сустрэць не давялося.
Тут на магілах брацкіх ля дарог
Не вянуць кветкі ні вясной, ні ўвосень.

Зямля бацькоў, Лагойшчына мая,
Край неўміручай партызанскай славы!
На ўсё жыццё ўвабраў у сэрца я
Тваіх кастроў і боек дым гаркавы.

* * *

Ноч.
Цішыня.
На вулцы — ні душы.
Стаю і слухаю, як у цішы
Зрываецца з галінкі спелы яблык.
Ударыўшыся аб здранцвелы сук,
Ён глуха, мякка жвякне ў баразну.
На сенавал пайду, крыху азяблы,
І доўга-доўга, аж пакуль засну,
Наліваў белых буду слухаць стук.

А раніцой
Смяшлівая дзяўчынка —
Уся ў вяснушках,
З бантам,
Са шчарбінкай,
Яшчэ заспаная — іх пазбірае ў кошык,
І возьме самы буйны і прыгожы,
Крамяны, выкупаны у расе,
Патрэ рукамі (яблык, як навошчаны,
Аж заскрыпіць) і, соладка храбошчучы,
Дадому жнівень спелы панясе.
Маё бяссонне ў хату панясе.

* * *

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
Свой напеў векавы.
А я лягу — прылягу
Край гасцінца старога
На духмяным пракосе
Недаспелай травы.

А я лягу — прылягу
Край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,
На высокі курган.
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі — ў даліну,
Хай накрые туман...

Вы шуміце, шуміце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю.
А я лягу — прылягу
Край гасцінца старога:
Я здарожыўся трохі.
Я хвілінку пасплю.

* * *

Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..
Ён ёсць у кожнага — свой бор, што вабіць,
Свой мілы кут, свае бярозы й клёны,
І ёсць свая лясная тайна, мабыць…

Дык будзь жа ты навек благаслаўлёны!
Адзін ты знаеш, дружа мой маўклівы,
Які быў я ў цябе ў гасцях шчаслівы,
Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..

* * *

Як хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы
на Віцебшчыне,
У той водсвет маланак пад гулкі захлёбісты лівень,
У той водар садоў, да лісцінкі абмытых
і вымашчаных,
У абдымкі тых рук, і даверлівых і палахлівых!

Не, не сціхлі ў душы навальніцы далёкай грымоты,
І не звянула ўсё, што з такімі пакутамі выпешчана...
О, каб ведала ты, як хвілінаю горкай самоты
Зноў хачу я вярнуцца ў той вечар ліпнёвы
на Віцебшчыне!

* * *

Не гаманіце, вербы, не будзіце,
Не грайце, ветры, у зялёным вецці:
Яна ўсю ноч пракаратала з дзіцем
І задрамала толькі на дасвецці.

Няхай прысніцца ёй лясная казка:
Палянка ў пушчы, ціхі гуд чмяліны,
Бяжыць хлапчук, а ў кулачках — маліны...
Не гаманіце ж, вербы, калі ласка.

* * *

Столькі мук і крыўды ёй прынеслі,
Столькі ран балючых ёй зрабілі,
Столькі раз пад самы корань секлі,
Столькі раз у моры слёз тапілі,—
А яна жыве, як і жыла,
І мацнейшай стала, чым была,
І яшчэ ярчэй сягоння свеціць,
І гатова да пакут ізноў...

Хто ж казаў: няма нічога ў свеце
Далікатнейшага за любоў?

* * *

Манатонна, жаласна і сумна
Птушка свішча ў гушчары альховым.
З гарадскога вырваўшыся тлуму,
Я ляжу ў траве пад ціхім сховам.

Ад таго, што сумна й мне чамусьці,
Так прыпаў да сэрца, так дарэчы
Гэты свіст самотнай птушкі ў кусце,
Што ляжаў бы тут і слухаў вечна!..

Раптам бачу: між кустоў дзяўчынка.
З ярка-сінім факелам шалфею,
Крочыць ціха вохкаю сцяжынкай,
Як маленькая лясная фея.

Я знячэўку падхапіўся нават:
Можа, гэта проста прыдалося?
— Ты не фея? — запытаў ласкава.
— Не,— крутнула галавой,— я — Зося!

І пайшла… А песню перабіла.
Сціхла птушка. Зноў ляжу ў траве я.
Ах ты, фея! Што ж ты нарабіла!
Ты спалохала мне казку, фея!

Я гляджу на сцішанае неба.
Дзесьці побач — конікавы строкат.
Як жа часам чалавеку трэба
Апынуцца ў казцы ненарокам!

## СНЯГУРАЧКА

Горад ёлкамі пахне,
Ёлкі пахнуць узлескам,
Ёлкі казкамі пахнуць,
Ласкай маці, маленствам…

Ёлкі пахнуць смалою,
Пахне святам на рынку.
Брат з сястрычкай малою
Выбіраюць ялінку.

Хлопчык жвавы і бойкі,
Ён таргуецца чынна:
— Ваша елачка колькі?
— Два,— сказала жанчына.

— Два? — збянтэжыўся хлопчык.
Надта ж просіце многа!..
І шчаслівыя вочы
Спахмурнелі ў малога.

Адступіўшы паўкроку,
Памаўчаў ён хвілінку
І, ўздыхнуўшы глыбока,
Паглядзеў на дзяўчынку:

— Дай рубель свой, Алёнка,
Бачыш, плацяць жа людзі.
— Дык тады наша ёлка
Без снягурачкі будзе!

Нам жа мама сказала:
«Больш не дам ні капейкі!..»

Ля ялінкі ж удалай
Дзядзька круціцца нейкі.

Пэўна, возьме ён, возьме —
Знікне дзіўная казка.
Хлопчык кінуўся: — Вось вам.
Два рублі! Калі ласка!..

Ён на саначках ёлку
Мацаваў, каб не ўпала.
А жанчына ў насоўку
Моўчкі выручку клала.

І каму было згледзець,
Як на вейках дзяўчынкі —
Дакрануўшыся ледзьве —
Раставалі сняжынкі.

* * *

Як ты грымела, як бабахала,
Мая рабінавая ноч!
Стокрылы вецер дол аблахаваў
І вобзем кідаўся наўзбоч.

Як быццам тоўшч нябёс валілася
Трашчала так над галавой.
І толькі сэрца весялілася,
Здранцвення скінуўшы павой.

Маланкі бліскалі, мігцеліся,
Як стрэлы, жыхалі здалёк.
І не згадаць, куды ён цэліўся,
Сляпы, разгневаны стралок.

То залатымі дратаванкамі
Крамсалі неба ўшыр і ўдоўж,
І, як прышпораны маланкамі,
Ляцеў лавінай гулкай дождж.

Нібы дзяцюк, якога здалечы
Да мілай сцежкі прывялі,
Ён упіваўся, прыпадаючы,
У вусны смяглыя зямлі.

Калі б ты, ночка, толькі ведала,
Якое свята на душы
Ты разбудзіла, запаветная,
Скрышыўшы здрадлівасць цішы.

Прыйдзі ж расстайнаю гадзінаю,
Як дазіхцяць маланкі вон,
І грымні песняй лебядзінаю,
Мая рабінавая ноч!

* * *

Далёка ты ад нашай Беларусі,
Зямля сяброў, зямля красы юначай.
Калі — не ведаю — у шлях збяруся,
Цябе, шчаслівы вольны край, пабачу.

Але душу маю сягоння поўняць
Твае мелодыі, і я не знаю,
Ці гэта шум разгалістых шаўкоўніц,
Ці гэта ўсплёскі вольнага Дунаю?

Ці гэта ветрык ранішні рухавы
Пакінуў свой начлег на перавалах
Балкан аснежаных, дзе рускай славы
Яшчэ сляды не сцерліся на скалах?

Гучаць мелодыі, і сэрца рвецца
Туды, дзе ружамі цвітуць даліны,
Дзе вінаграднік ля дарогі ўецца,
А ў небе клёкат чуецца арліны,

Дзе ў гушчарах з апошняй грознай ночы
Застылі вогнішчы кастроў гайдуцкіх,
Дзе песні ў вуснах маладых дзявочых,
Зусім падобныя да беларускіх.

— Ой, дубе, дубе, вячысты дубе,
Чаму ж ты, дубе, завяў зялёны,
Завяў зялёны, лістом здрабнёны?
— Таму й завяў я, зялёны дубе,
Што ахінула імгла густая,
Імгла густая аж да карэння...

Гучаць мелодыі... І ў зале цеснай

Палаюць тысячы вачэй любоўю.
О край юнакаў, край садоў і песень,
Заўсёды сэрцам мы былі з табою!

Імгла рассеяна, бо ўстала сонца,
Расправіў голле зелен-дуб вячысты,
Гамоніць весела, шуміць бясконца!..
Нам люба слухаць спеў яго ўрачысты.

## БАЛГАРСКАМУ БРАТУ

Брат мой!
Кроў Леўскага ў жылах пульсуе тваіх.
Кроў Каліноўскага ў сэрцы стукоча маім.
Каты свабоды павесілі іх
абаіх.
Дзеці свабоды ім славу пяюць
абаім.

Тут, у гарах і далінах, стагоддзе назад
Смелы і горды апостал свабоды хадзіў.
Там, каля Гродна і Вільні, мужыцкі атрад
Брат яго, родны па духу, на бітвы вадзіў.

Што за бяда, што не зналі адзін аднаго?
Гэтых імён у душы маёй не разлучыць.
Кожнае з іх — гэта частачка сэрца майго.
Кожнае з іх для мяне, нібы клятва, гучыць.

Стань жа упоплеч, мой друг, і на хвілю замры!
Дай памаўчаць перад памяццю верных сыноў,
Што ненавідзелі больш усяго на зямлі
Бляск ятаганаў злавесны ды свіст бізуноў.

Вось мы з табою — нашчадкі шчаслівыя іх —
Рукі злучылі ў замок перад светам усім.
Брат мой!
Кроў Леўскага ў жылах пульсуе маіх!
Кроў Каліноўскага ў сэрцы стукоча тваім!

